Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 47 (98). Вільня, Серада 15 Чэрвеня 1927 г. Год III

# Сялянская Ніва

Нехай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Прывітаньне.

Мы жывём на Бацькаўшчыне і змагаемся са сваею гаротнасьцю, імкнучыся перамагчы яе і выбіцца на новы шлях да лепшае будучыны. Мы змагаемся за лепшую будучыну Бацькаўшчыны дзеля таго, што любім яе і хочам бачыць яе шчасьліваю.

Але-ж ня ўсе сыны Беларусі жывуць пад яе родным небам, ня ўсіх яна корміць сваім „насушным“ хлебам. Шмат, вельмі шмат яе сыноў з за рожных прычынаў, раскідана па сьвеце, яны жывуць ад яе далёка і надта далёка, сярод чужых людзей і абставінаў. Некатарых з іх гэтая доля спаткала нядаўна, а іншых некалькі дзесяткаў гадоў назад.

Але-ж ніякая сіла ня зможа выдраць з грудзей таго, што дала пры нараджэньні і ўзгадаваньні мілая Бацькаўшчына! Ужо гэтакі істнуе закон, што — Бацькаўшчына даражэй усяго таго, што толькі спатыкае чалавек на жыцьцёвым шляху!

I дзе толькі няма Беларусаў? Сібірская тайга, дымная чэхаславацкая Прага, далёкая Амэрыка і многа іншых краінаў і старонкаў даюць прытулак сыном Беларусі.

Жывуць Беларусы там не таму, што маюць якія-колечы панскія капрысы, гоняцца за навіэнамі жыцьця ад непамернае раскошы і бяздзейнасьці, а таму, што капрысная доля, дзякуючы злой волі валадароў над Беларусяй, вытвараюць гэткія ўмовы і варункі жыцьця, што загнаны і замучаны гаротнасьцю Беларус пакідае Бацькаўшчыну, каб на чужыне цяжкай працаю здабываць сабе кавалак хлеба. Ёсьць і гэтакія, што не маглі спакойна насіць чужацкае ярмо і парываліся скінуць яго і вось, за гэтыя парываньні да вольнасьці, будучы перасьледаванымі, пакідалі Бацькаўшчыну, каб захаваць сваё жыцьцё і далей працаваць за межамі на яе карысьць.

Гэтыя зьявішчы нашай сучаснасьці напаўняюць нас жалем, дык і надта было-б безпрасьветна калі-б з-за гэтага сумнага жалю не паказваліся сьветлыя касулькі радасьці!

Гаворачы гэта мы маем на прыкмеце тую добрую зьяву, што дзе бы ня быў Беларус, дык ён ня губіць свайго нацыянальнага абліччa, а астаецца самым сабою. Яшчэ маем на ўвазе і тое, што Беларусы, дзе і як-бы яны ня жылі, заўсёды носяць у сваім сэрцы пачуцьцё прыхільнасьці да Бацькаўшчыны і наколькі магчыма дапамагаюць ёй.

Перад гэтым „Сял. Ніва“ падала некалькі вестак аб жыцьці Беларусаў у Амэрыцы. І як сьведчаць гэтыя весткі, там далёка за многаводным акіянам Беларусы жывуць сваім жыцьцём і арганізуюцца, каб дапамагаць у тэй ці іншай форме і меры сваей загнанай і паняволенай Бацькаўшчыне.

І вось, гэтую праяву ў жыцьці Беларусаў на чужыне мы шчыра *вітаем*!

Вітаем сыноў Беларусі, якіх капрысная доля адарвала ад Бацькаўшчыны і перакінула за акіян за тое, што яны не забылі роднае старонкі і помняць аб ёй. Што і там пад чужым дахам, яны ўмелі захаваць пачуцьцё любасьці да роднага краю!

Вітаем і за тое, што параскіданыя па ўсяму разлегламу абшару Амэрыкі, яны пачынаюць гуртавацца ў свае нацыянальныя арганізацыі!

## Пасьля забойства Войкава.

Польскія ўлады вельмі энэргічна павялі сьледства ў справе забойства Войкава. Варшаўскі пракурор і сьледавацель прыяжджалі на‘т у Вільню, дзе паміж іншым дапрашвалі Паўлюкевіча і яго супрацоўніка князя Друцкага-Падбярэскага.

Усе арыштаваныя расейцы ў Вільні--зьвольнены. Паміж імі і Кавэрдаю ніякае сувязі не ўстаноўлена.

Жонка забітага пасла Войкава, на яе аб гэтым дамаганьне, дапушчана быць прысутнаю пры ўсіх дапросах у справе забойства. Яе прэтэнсіі матэрыяльнага характару польскі ўрад згаджаецца здаволіць.

Аканчальна няведама, але-ж магчыма, што Кавэрду будзе судзіць ваенна-палявы (даразны) суд. Абаронцам Кавэрды згадзіўся быць віленскі адвакат Андрэеў без ніякае платы.

Прэзыдэнт Польшчы п. Масьціцкі атрымаў падзяку ад Старшыні Радавага Выканаўчага Камітэту Калініна за выражаны спагад жалю з прычыны забойства.

Польскі ўрад цераз свайго пасла ў Маскве даў вельмі лагодны, канкрэтны і ветлівы адказ на савецкую ноту, даводзячы, што Польша ня можа быць адказнаю за праступкі чужых ей элемэнтаў. Гэта самае пішуць і ўсе эўрапэйскія газэты. Дык здаецца, што паважнейшага канфлікту паміж Польшчаю і Саветамі ня будзе, хоць некаторыя чакалі паўтарэньня сараеўскае эпапэі.

Польскія газэты надта добра адклікаюцца аб забітым савецкім пасле Войкаве, пішучы, што Войкаў стараўся наладжваць добрасуседзкія адносіны між Саветамі і Польшчаю.

### Провады Войкава з Варшавы.

10 г. чэрвеня цела забітага пасла Войкава праводзілі з гмаху пасольства да станцыі, каб чугункаю адправіць у Маскву.

Адзін паграбовы катафальк вёз труну, а другі вянкі, сярод якіх выдзяляўся вянок супрацоўнікаў пасольства і польскага міністра спраў заграчічных.

Пры гэтых провадах польскі ўрад аддаў забітаму паслу гензральскія ганоры. На вуліцах дзе мела праходзіць жалобная працэсія выстраяна была з абадвох бакоў вайсковая стража. Перад працэсіяй праходзіў вайсковы аддзел пяхоты з вайсковым аркестрам, кавалеры, і артылеры, далей два вазы з вянкамі і катафальк з целам пасла.

За труною ішлі сям'я пасла, супрацоўнікі пасольства, прадстаўнікі п. Прэзыдэнта, некаторыя міністры з п. Бартлем, дыплёматычны корпус і прадстаўнікі ваяводзкіх і меставых уладаў Варшавы. Замыкалі афіцыяльную частку паходу вайсковы аддзел пяхоты, артылеры і кавалеры.

На станцыі, калі цела пасла Войкава ўнясьлі ў дэкаранавы вагон і прадстаўнікі ўладаў мелі вяртацца дамоў, дык віцэ-прэм‘ер Бартэль і ўсе прысутныя міністры, а таксама і сябры дыплёматычнага корпусу яшчэ раз выразілі ўдаве Войкавай спагад жалю.

Цягнік рушыў са станцыі пад зыкі жалобнага маршу.

Да савецкай граніцы праводзілі цела Войкава: сям‘я, некаторыя супрацоўнікі пасольства і ад польскага ўраду сэкрэтар міністра Замежных Спраў, пры ганаровай вайсковай старожы.

## Падзеі у Радавым Саюзе.

У сувязі з петраградзкім замахам на камуністычны клюб і забойствамі Опанскага і Войкава, бальшавіцкі ўрад распачаў чырвоны тэрор, каб напалохаць контррэвалюцыянераў. Па загаду Маскоўскае чэразвычайкі без ніякага суду ў Маскве растраляна 20 чалавек, якія былі арыштаваны па западозраннасьці ў антыбальшавіцкай дзейнасьці. Усе растраляныя зьяўляюцца або быўшыя царскія афіцэры, ці ўрадоўцы, або проста грамадзкія дзеячы.

Гэтае забойства, якое выканана бяз суду, а толькі па капрысу палітычнае паліцыі, газэты ўсяго сьвету жорстка крытыкуюць. Крытыкуюць дзеля таго, што ў наш цывілізаваны век не павінна быць гэта, каб за праступкі нейкіх фанатыкаў, як напрыклад Кавэрды, былі адказныя людзі, якія нічога дрэннага ня ўчынілі, а былі пад арыштам толькі дзеля таго, што па думцы Г.П.У. зьяўляліся небясьпечнымі элемэнтамі.

## У Радавай Беларусі.

У некалькіх верстах ад Менска здарылася катастрофа з дрэзінаю, якая звалілася пад аткос чугункавае лініі. Праваднік дрэзіны забіўся на месцы, а старшыня мінскае чэразвычайкі Опанскі і яго сэкрэтар, якія ехалі гэтаю дрэзінаю моцна паранены. Опанскі памёр. Катастрофу дрэзіны выклікалі няведамыя злачынцы, якія разшырылі чугунковыя рэльсы.

Газэты зьмяшчаюдь весткі з Масквы, што каля вёскі Мушына беларускія паўстанцы напалі на вайсковы аддзел чэразвычайкі і на сотню кавалерыстаў. Быццам паўстанцы мелі ручныя кулямёты, дык адзел рэгулярнага савецкага войска мусіў уцякаць трацячы 30 чалавек забітымі і раненымі.

# ВЫБАРЫ Ў САМАЎРАДЫ.

## Беларускія і Расейскія Выбаршчыкі!

Помніце, Ваш сьпісак кандыдатаў у радныя меставай Рады

## нумар першы (№ 1).

Усе, як адзін чалавек, галасуйце за гэты сьпісак і Вы будзеце мець сваіх прадстаўнікоў у Віленскай мест. Радзе, якія будуць бараніць Вашыя нацыянальныя, культурна-прасьветныя і эканамічныя інтарэсы.

### Кандыдаты сьпіску № 1 (Аб'яднанага Беларуска-Расейскага Камітэту):

1. БАГДАНОВІЧ ВЯЧАСЛАЎ, сэнатар.
2. ЕМЕЛЬЯНАЎ ІВАН, прамысловец.
3. ЯРЕМІЧ ФАБІЯН, пасол сойма.
4. САВКОВ МІКАЛАЙ, інжынер.
5. РАХЛІН-РУМЯНЦЭВ АЛЕКСАНДАР, інжынер.
6. БІЛЬДЗЮКЕВІЧ АДАМ, эканаміст.
7. БУТУРЛІН АЛЕКСАНДАР, улас. дому.
8. ДУБЕЙКОЎСКАЯ ЮЛІЯНА, вучыцелька
9. ЯЦЫНА АЛЕКСАНДАР, бугальтар.
10. ГРЖЫБОЎСКІ ЯЗЭП, др. ўлас. дому.
11. ШПІЛЕЎСКІ ГРЫГОРЫ, псаломшчык.
12. ВАСІЛЕВІЧ ДІОМІД, рамесьнік.

**Аб'яднаны Беларуска-Расейскі Выбарчы Камітэт.**

### Мітынгі

**Аб'ядн. Беларуска-Расейскага Выб. Камітэту.**

Ня гледзячы на дождж, у нядзелю 12 чэрвеня адбылося прадвыбарнае ВЕЧА (мітынг) Аб'яднанага Беларуска-Расейскага Выбарчага Камітэту ў салі Крэйнгеля а 4-ай гадзіне.

Веча адкрыў гр. Емельянаў, далей з прамовамі выступалі гр.гр.: Більдзюкевіч, Румянцаў, сэн. Багдановіч, Гарачка і Кузьміцкі.

Наступнае веча адбудзецца ў чацьвер 16 чэрвеня а гадз. 2 у салі „Макабі" на Наўгародзкай вул.

### Сьпіскі кандыдатаў.

У сувязі з выбарамі ў Віленскую меставую раду ў галоўны выбарчы камітэт падана 12 важных сьпіскаў кандыдатаў у радныя.

Сьпіскі ідуць пад наступнымі нумарамі:

№ 1. Аб'яднаны **Беларуска**-Расейскі Выбарчы Камітэт (сэн. Багдановіч).
№ 2. П. П. С. (інж. Чыж).
№ 3. Саюз жыдоўскіх кабет (Эпштэйн).
№ 4. „Бунд" (Каган).
№ 5. Літоўскі сьпісак (д-р Шлапэліс).
№ 7. Камітэт абароны праў работніка (Лукашэўскі).
№ 8. Жыдоўскі нацыянальны сьпісак
№ 9. Ня істнуе.
№ 10. Аб'яднаны Польскі Выбарчы Камітэт (Ян Пілсудскі, мін. Станевіч).
№ 11. Фікцыйны.
№ 12. Безпартыйны (абшарніцкі) Выбарчы Камітэт (праф. З. Юндзіл).
№ 13. Ня істнуе.
№ 14. Цэнтральны Польскі Выбарчы Камітэт (эндэцкі) (праф. Комарніцкі).
№ 15. Аб'яднаны Выбарчы Камітэт (Пол. Парт. Сац. лявіца) (інж. Заштаўт, Дідзюль).

З вышэй падана бачым, што Беларусы ідуць на выбары ў Віленскаю меставую Раду адным нацыянальным сьпіскам, пад **№ 1**, Расейцы таксама адным, Літоўцы таксама маюць толькі адзін сьпісак, жыды маюць 4 сьпіскі (№ 3, 4, 6 і 8), а Палякі 6 сьпіскаў (№ 2, 7, 10, 12 і 15).

Такім чынам, прыходзіцца цешыцца, што беларускія галасы не разаб'юцца, а пайдуць на адзіны сьпісак **№ 1**.

### Рожнагалосіца сярод работнікаў.

Як ведама, ад самага пачатку абвешчаньня выбараў, польскія работнікі з пад сьцягу П. П. С. (ляв.) вялі перагаворы з ананімным Бел. Выбарчым Камітэтам, якога рэпрэзэнтуе „Наша Праўда". Ня гледзячы на прынцып салідарнасьці работніцкае клясы—польскія работнікі з П. П. С. не хацелі даць беларускім работнікам месца ў радзе. Гэта выклікала тое, што да апошняга дня складаньня сьпіскаў кандыдатаў (11-га чэрвеня), ніяк ня можна было дайсьці да згоды паміж беларускімі і польскімі работнікамі. Гэтая рожнагалосіца давяла да таго, што апошнім сьпіскам кандыдатаў быў падданы якраз работніцкі сьпісак № 15, і то, каб „Наша Праўда" не ўступіла свайго месца Палякам, дык сьпісак быў-бы зусім запозьнены.

З вышэй падана бачым, што „Наша Праўда" ідзе ў хвасьце за П. П. С., бо адказалася ад свайго прадстаўніка Беларуса ў меставай радзе, перадаючы абарону Беларусаў-работнікаў Палякам з П. П. С.

Такая пастаноўка справы выклікала вялікае абурэньне сярод беларускіх работнікаў і затым яны пастанавілі ісьці на выбары нацыянальным фронтам і галасаваць за беларускі сьпісак **№ 1**.

### Голас работніка.

У суботу пайшоў я ў польскую пральню, каб атрымаць бялізну, якую аддаў мыць. Але-ж акурат, бялізна мая была не гатова, дык мусіў крыху пачакаць, пакуль выпрасавалі кашулю.

І вось, што я пачуў.

Адна работніца гавора папольску да другой: „учора я бачыла дзьве дзяўчыны. Абедзве ўбраныя пристойна, адна нават студэнтка, але гаварылі яны пабеларуску. Аж. — кажа — я здзівілася, пастаяла пагледзела ды паслухала. Калі гавораць пабеларуску, дык няхай-бы і адзяваліся-б гэтак сама!... А то вось, халерныя, як адзявацца, адзяюцца панашаму, а як гававыць, дык ломяць язык чорт ведае як". Вось якое перакананьне маюць польскія работніцы адносна Беларусоў. Але справа ня ў гэтым, а ў тым, што з тае гутаркі, якую я прывёў вышэй паказваецца ня толькі галава, нятолькі пятка, а ўсесь польскі шавінізм. І гэта шавінізм у самай звычайнай работніцы, якая сама блага гавора па польску, але якая мо' хоць не сьвядома, але-ж глыбока ўтапілася ў польскім шавінізме.

Гэтакіх здарэньняў я меў ужо нямала ў месце. Тое што асаднікі, нават самыя найгорш зазнаныя з галітою, маюць ня менш шавінізму як тая работніца, аб гэтым ня трэба гаварыць. Але-ж хочацца адзначыць што і сярод беларусаў—каталікоў, якія ня ўмеюць на'т гаварыць папольску, шавінізм польскасьці моцна ўкараніўся. Гэты маленькі эпізод прайшоўбы без ніякага ўражаньня, калі-б я прышоўшы дамоў не прачытаў у „Нашай Праўдзе" № 20, артыкулу „Да выбараў у гмінах".

З гэтага артыкулу я дазнаўся, што у № 45 „Сялянская Ніва" заклікае сяляянства ісьці на выбарах „адзіным нацыянальным фронтам". Далей у „Нашай Праўдзе" стаіць пытаньне: „як-жа разумець гэты заклік? і адказ: „ясна, што паны сельсаюзьнікі ўзашлі на дужа коўзкі шлях".

Ага, думаю, цяпер, дык я таксама зразумеў, што па „Нашай Праўдзе", нацыянальны беларускі фронт, гэта „дужа коўзкі шлях". Не адкідаю—гэта коўзкі шлях, але не для таго каго хоча зьбідзь „Наша Праўда".

Далей я чытаю, што на сьвяткаваньні ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі былі палянафілы Умястоўскі, Мамонька, Косьцевіч, дык чаму-ж іх а таксама і Паўлюкевіча і Вярніковскага ды Падбярэскага не запрасіць у „адзіны нацыянальны фронт?"

У сувязі з гэтым адкажу, што сьвяткаваньне ўгодкаў і выбары ў гмінныя самаўрады—дзьве розныя рэчы!...

Сьвяткаваньне, гэта дэманстрацыя. Дык на гэтакай дэманстрацыі і павінны быць усе, бо толькі тагды выявяцца сымпатыі і антыпатыі да таго, што дэманструецца. На сьвяткаваньні ўгодкаў незалежнасьці Беларусі дэманстравалася прыхільнасьць беларускага народу да яго нацыянальных незалежніцкіх ідэалаў. Тут былі і дэманстранты і наглядчыкі. І вось, пасьля дэманстрацыі можна стала падраховаць яе вынікі.

Перадусім стала ведама, што як Паўлюкевіч, гэтак сама і Луцкевіч, да нацыянальнага фронту не належаць, бо ня толькі што не прымалі ўдзелу ў дэманстрацыі, а жорстка асудзілі за гэта таго, хто дэманстраваў. Па іхняму зданьню, незалежнасьць Беларусі не патрэбна. Паказаў сябе і Умястоўскі, тагды напісаўшы, што, як вынікае з дэманстрацыі, дык сіла Беларусі—нікчэмна.

Былі на сьвяткаваньні і іншыя народнасьці: літвіны, жыды, палякі ўсіх гатункаў і вось кожны з гэтых наглядчыкаў вынес сваё ўраженьне, якое і было адбіта і выяўлена тым ці іншым спосабам.

З гэтых усіх уражаньняў зрабіў пэўна нейкія вывады і ўрад.

Якія-бы ўрад не рабіў вывады, усе-ж такі ён пераканаўся, што Беларускі народ, як гэтакі, жыве і што мае выразныя тэндэнцыі да дзяржаўнай самабытнасьці.

Але проці гэтае самабытнасьці, паміма польскага ўраду, што натуральна, змагаюцца і тыя асобы, якія лічаць чамусьці сябе Беларусамі, але-ж ня хочуць, каб Беларусь была — незалежнаю.

Аб гэтым сьведчыць артыкул: „да выбараў у гмінах" з „Наш. Праўды".

Я думаю, што „Сялянская Ніва" пішучы аб „Нацыянальным фронце" мела на віду таго, хто запраўды стаіць на грунце беларускасьці, а не таго хто здраджае ёй, дык вось і будзе адказ „Нашай Праўдзе" чаму ня трэба Беларусам буржуазных „падшыванцаў" бёлорусса Паўлюкевіча і białorusina Umiastowskiego.

Цяпер адкажу, чаму ня трэба Беларусам ніякае згоды і згоды нават і з працоўнымі чужой нацыянальнасьці (а асаднікі ці не працуюць?), якія шовіністычна настроены проці працоўных Беларусаў.

Я прывёў „маленькі эпізод" з работніцы-полькі, я прывёў у пачатку гэтага артыкулу ссылку на тое, што польскія работнікі і сяляне ўтапіліся з галавою ў шавінізме, вось чаму пам трэба ісьці нацыянальным фронтам, вось чаму Беларусы-сяляне пры выбарах у гмінныя самаўрады не паслухаюць „Нашае Праўды", якая дае „цэнныя" рады пакахацца з польскімі шовіністамі, і — выберуць толькі сваіх працоўных сялян, а Беларусы работнікі ў Вільні будуць галасаваць толькі за сьпісак № 1, каб памінуць чужое балота, у нетры якога кліча „Наша Праўда".

**Работнік - Беларус**

### З украінскага жыцьця.

5 і 6 г. чэрвеня ў Луцку на Валыні адбыўся ўкраінскі праваслаўны царкоўны зьезд. Прысутнымі было да 800 дэлегатаў прадстаўнікоў ад украінскіх парахвіяў і брацтваў. Таксама былі прысутнымі ўкраінскія паслы і сэнатары.

Зьезд абгаварыў даклады балячкі украінскага царкоўнага жыцьця ў Польшчы і прыняў цэлы рад пастановаў, у якіх жадае ўкраінізацыі царквы і пэрыядычнага склікаваньня царк. зьездаў.

Зьезд вострa выказаўся проці мітрапаліта Дзяніса за ўсю яго палянафільскую палітыку.

Выканаўцам прынятых пастановаў зьезд даручыў выбранаму царкоўнаму камітэту пад старшынствам д-ра Рычынскага.

### Арышты камуністых.

У Львове паліцыя арыштавала студэнтаў Касака і Аганоўскага, якія западозраны ў прыналежнасьці да камуністычнае партыі Заходняе Украіны.

Арыштаваны таксама нейкі Лібштэйн, які быццам быў кур'ерам паміж камуністычнаю цэнтраляю ў Гданску і львоўскаю камуністычнаю арганізацыяю.

Арышты ўжо перасталі быць дзівам, але-ж тое, што не праходзіць таго дня каб не адбылося таго ці іншага спатканьня ўлады з камуністымі—змушае зрабіць адпаведныя вывады.

Мусім сказаць, што Польшча патрабуе капітальнае рэпэрацыі.

## Беларусы, работнікі і працоўная інтэлігенцыя, галасуйце на сьпісак № 1

